










**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

21 чэрвеня 2000 года
Цана 80 рублёў

№ 25 (2687)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ!

**Дубініч** Павел Пятровіч, 1925 года нараджэння, ураджэнец вёскі Любачын Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці, у пачатку вайны вывезены ў Германію.

Вас шукаюць сваякі:
**Канапацкая** Кацярына Іосіфаўна,
**Скіба** Аляксандра Іосіфаўна,
**Дубініч** Тацццяна Пятроўна,
**Дубініч** Сава Пятровіч.

Звяртацца на адрас:
**220034, Мінск,**
**вул. Захарава, 23.**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**
**Тэл./факс 284-75-15.**
**Тэл. 236-34-54.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

## СТВАРАЕЦЦА МАРСКІ ФЛОТ

**Цікава, што ў Беларусі, унутрыкантынентальнай краіне, амаль пяць тысяч маракоў. Магчыма, яны змогуць вярнуцца да любімай прафесіі: Міністэрствам транспарту рэспублікі распрацавана спецыяльная праграма, якая прадугледжвае развіццё рачных і марскіх перавозак і нават стварэнне ў Беларусі ўласнага марскога гандлёвага флоту.**

Найлепшыя часы для транспартнага флоту краіны прыпадалі на канец 80-х — пачатак 90-х гадоў. Тады параходства налічвала 667 суднаў, водныя шляхі працягваліся амаль на 5 тысяч кіламетраў (зараз — менш чым на 2 тысячы). Са знікненнем Саюза многія эканамічныя сувязі парушыліся, і 80 працэнтаў суднаў былі выведзены з эксплуатацыі. Таму прынятая праграма прадугледжвае пераарыентацыю флоту не толькі на ўнутраныя перавозкі, як гэта было раней, але, у першую чаргу, экспарт і імпарт тавараў праз Чорнае і Балтыйскае моры. Дарэчы, 60—65 працэнтаў усяго беларускага экспарту ў краіны далёкага замежжа і імпарту з гэтых краін

Заканчэнне на 2-й стар.

ШМАТГАЛОССЕ

# АГУЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ ДОМ





*"Зямля сяброў, краіна згоды,*
*Дзе ты і я здаўна жывём.*
*Дзе нашы братнія народы*
*Узводзяць Беларускі Дом".*

Гэтыя паэтычныя радкі як нельга лепш раскрываюць сутнасць трэцяга Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, які прайшоў у Гродне. Прадстаўнікі шаснаццаці нацыянальных культурна-асветніцкіх аб'яднанняў прыехалі на фестываль. Ён пачаўся з адкрыцця сквера "Сяброўства" на вуліцы Падольнай. Затым адбылося шэсце дэлегацый і гасцей.

На "Нацыянальных падворках", раскіданых па цэнтру горада, працавалі выставы літаратуры, работ мастакоў і майстроў народнай творчасці, можна было пакаштаваць вырабы нацыянальнай кухні. Завяршыўся фестываль гала-канцэртам і феерверкам. Фестываль паказаў, як шмат робіцца на Беларусі для захавання і развіцця этнічнай самабытнасці народаў, што насяляюць нашу краіну.

НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця фестывалю: міністр культуры Беларусі А. САСНОЎСКІ (справа налева), старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі А. БІЛЫК,першы намеснік міністра культуры У. РЫЛАТКА; шчодрасць "Беларускага падворка"; рускі хор; дэкаратыўнае пано, прысвечанае дружбе народаў; карэйскі танец з веерамі; свята на вуліцах горада.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ,** БелТА.











NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

ЖЫЦЦЁ ПРАВІНЦЫІ

# ПАРТЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ: СПРАВУ РАБІЦЬ ЦІ «ГОРЛА ДРАЦЬ»?

Не так даўно, вяртаючыся з Мінска дадому, звярнула ўвагу, як і ўсе пасажыры, на гарачую спрэчку. Мужчына даказваў сваёй субяседніцы, што ў правінцыі ніякага палітычнага жыцця не існуе, што людзей нічога, акрамя матэрыяльнага, не цікавіць — і зразумела, чаму. Маўляў, удзел нашых суграмадзян у палітычнай сферы заключаецца хіба толькі ў бурных абмеркаваннях чарговай тэлевізійнай перадачы, прычым "абы толькі горла падраць". "Ды і скажыце, якія палітычныя партыі дзейнічаюць сёння на Брэстчыне?" — скончыў свой палкі маналог мужчына. Яго апанентка не здолела дакладна адказаць на пытанне. Аднак мяне гэтая тэма зацікавіла.

У раённым выканаўчым камітэце невялікага беларускага гарадка Камянца мне адказалі, што на тэрыторыі Брэсцкай вобласці зарэгістраваны Партыя працы і сацыяльнай справядлівасці, Партыя камуністаў беларуская (ПКБ), якая знаходзіцца ў апазіцыі Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, і Камуністычная партыя Беларусі (КПБ), у процівагу папярэдняй, падтрымлівае Прэзідэнта.

ПКБ не спыняе сваёй дзейнасці і ў глыбінцы Камянецкага раёна. У жніўні 1991 года яе праца прыпынілася з прычыны распаду СССР. Але з восені таго ж года быў распачаты збор подпісаў за рэгістрацыю партыі пад новай назвай, што і адбылося 26 мая 1992 года.

Кіраўнік ПКБ у Камянецкім раёне — жанчына. Ніна Стасюк скончыла філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута. Шмат працавала з моладдзю. Увогуле добра ведае, чым жыве вёска: да Ніны Данілаўны, як начальніка раённага аддзела фонду сацыяльнай абароны, пастаянна звярталіся людзі — ветэраны, інваліды і проста тыя, каму не хапала ўвагі, хто адчуваў сябе нікому непатрэбным у раптам "звар'яцелым" свеце на пачатку 1990-х гадоў. Яны і паставілі свае подпісы за адраджэнне ПКБ. Трэба адзначыць, што ў састаў партыі ўваходзяць адукаваныя, дзейныя, неардынарныя вяскоўцы. Зразумела, уся "партыйная праца" бясплатная. Людзі адстойваюць свае палітычныя перакананні, сустракаюцца, святкуюць юбілеі. Як вынік, усе кандыдаты ад мясцовага аддзялення ПКБ выбраны ў раённы савет.

**Таццяна ІВАНЮК.**
Брэсцкая вобласць.

ВЕКАПОМНАЕ

# СУСТРЭЧА НА ЭЛЬБЕ

У рэдакцыю завітаў былы вязень фашысцкіх канцлагераў, удзельнік падпольнага руху ў канцлагеры "Бухенвальд", 85-гадовы мінчанін Аляксандр Кашубара, каб падзяліцца сваімі ўражаннямі пра паездку ў Германію па памятных мясцінах на Эльбе, куды кожны год у пачатку мая з'язджаюцца ветэраны другой сусветнай вайны з Расіі, Беларусі, ЗША, Англіі і іншых краін.

— Мне пашчасціла другі раз пабываць на Эльбе. Першы раз, калі адзначалі 50-годдзе Перамогі, і сёлета — з нагоды 55-годдзя. Асабістае запрашэнне і сродкі даслаў мне пан НОВАТНЫ з Германіі, адзін з арганізатараў такіх сустрэч. Я яму бязмежна ўдзячны.

Як заўсёды, сабралася многа ветэранаў, удзельнікаў тых падзей. Былі кветкі, слёзы, успаміны. Сустрэчы заўсёды праходзяць у атмасферы сардэчнасці і пашаны. Вельмі цёпла віталі дзіцячы хор з Беларусі, які там выступаў. Быў урачысты мітынг, на якім абяцалі заўсёды помніць пра подзвіг савецкіх салдат і іх саюзнікаў, што вызвалілі Еўропу ад фашызму. Ускладвалі вянкі на магілы загінуўшых.

Прысутныя прынялі Зварот да народаў свету — зрабіць усё магчымае, каб нашы ўнукі і праўнукі ніколі не ведалі вайны, каб імкнуліся да знішчэння ядзернай зброі. Ветэраны давалі клятву да апошняга дыхання змагацца за тое, каб не дапусціць жахаў вайны.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

СПОРТ



Беларускі атлет Ігар АСТАПКОВІЧ (на здымку) першынстваваў у кіданні молата на спаборніцтвах серыі "Гран пры" па лёгкай атлетыцы, якія праходзілі ў Нідэрландах. Яго снарад адляцеў на 80,9 метра, што з'яўляецца адным з лепшых вынікаў сёлетняга сезона.

**Фота БелТА.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# СТВАРАЕЦЦА МАРСКІ ФЛОТ

Пачатак на 1-й стар.

адбываецца сёння менавіта з удзелам марскога транспарту. І гэта намнога танней, чым перавозка па чыгунцы, хаця і выкарыстоўваюцца рэкі толькі ў навігацыйны перыяд — з красавіка па лістапад.

Яшчэ нядаўна сітуацыя ўскладнялася тым, што амаль 50 працэнтаў беларускіх суднаў мелі значны знос і нават пагражалі экалагічнай катастрофай у выпадку іх патаплення.

Урэшце непрыгодныя судны былі здадзены на металалом, а лішнія рэалізаваны за межы краіны. Выручаныя сродкі пайшлі на мадэрнізацыю флоту пад экспартна-імпартныя перавозкі. Сёння ў складзе рачнога транспарту краіны — 89 буксірных цеплаходаў і 221 самаходная баржа, 42 з іх — для экспартных перавозак. Плануецца таксама будаўніцтва першага ў краіне судна змешанага плавання (рака — мора), але з-за адсутнасці сродкаў пачатак работ пакуль адкладваецца. А вопыт будаўніцтва падобных суднаў у Беларусі ўжо ёсць: па заказу адной галандскай кампаніі на Рэчыцкім заводзе пабудаваны сем карпусоў такіх караблёў. Вельмі важна і тое, што ў Беларусі ўжо створана прававая база, якая рэгулюе міжнародныя перавозкі марскім і ўнутраным водным транспартам. З 1 студзеня 2000 года дзейнічае Кодэкс гандлёвага мараплавання Рэспублікі Беларусь, з 9 мая 1998 года — Пагадненне паміж урадамі Беларусі і Украіны аб суднаходстве па ўнутраных водных шляхах, Пастановай Савета Міністраў РБ зацверджана Палажэнне аб нацыянальным пасведчанні асобы марака. Беларусь далучылася да шэрагу міжнародных канвенцый, якія рэгулююць міжнародныя адносіны ў сферы марскога транспарту.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

# ПАМЯНЁМ ГЕРОЯЎ



55 гадоў мінула з той жахлівай вайны, а мы ўсё яшчэ не ў сілах годна пахаваць усіх загінуўшых салдат, нават падлічыць ахвяры. Навукоўцы да гэтай пары спрачаюцца, колькі загінула — 20 альбо 28 мільёнаў. Беларусь недалічылася чвэрці свайго насельніцтва, кожны чацвёрты не вярнуўся з той вайны. Іх магілы раскіданы па ўсім свеце. Не з'яўляецца выключэннем і Львоў. Тут на Кургане Славы ляжаць разам з іншымі пабрацімамі вайны 16 беларускіх сыноў. Вось іх імёны.

Камандзір 14-й гвардзейскай стралковай Вінніцкай, ордэна Леніна Чырванасцяжнай дывізіі імя Я. Фабрыцыуса, Герой Савецкага Саюза, гвардыі генерал-маёр, ураджэнец Гомельскай вобласці **Скрыганаў Вікенцій Васільевіч.**

Камандзір 318-га стралковага палка 241-й стралковай Вінніцкай дывізіі, ураджэнец Мінска, палкоўнік **Сікорскі Рыгор Андрэевіч.**

Камандзір 72-й асобнай горнаартылерыйскай Чырванасцяжнай брыгады, ураджэнец Міншчыны, палкоўнік **Смоляк Язэп Сцяпанавіч.**

Камандзір роты 2-га батальёна 24-й гвардзейскай механізаванай брыгады, ураджэнец Віцебшчыны, Герой Савецкага Саюза, гвардыі лейтэнант **Свідзінскі Уладзімір Іванавіч.**

Камандзір 1889 самаходнаартылерыйскага палка, ураджэнец Міншчыны, гвардыі маёр **Аўдзіевіч Алесь Паўлавіч.**

Старшы памочнік начальніка аддзела сувязі штаба 10-га гвардзейскага танкавага Уральска-Львоўскага Чырванасцяжнага дабравольніцкага корпуса, ураджэнец Магілёўшчыны, гвардыі маёр **Андрэенка Іван Лаўрэнцьевіч.**

Начальнік сувязі 25-й гвардзейскай механізаванай брыгады, ураджэнец Гомельшчыны, гвардыі маёр **Бельчанка Мікалай Мінавіч.**

Старшы памочнік начальніка разведаддзела штаба 7-га гвардзейскага танкавага корпуса, ураджэнец Мінска, гвардыі капітан **Комар Рыгор Пятровіч.**

Камандзір батальёна 12-й гвардзейскай танкавай Шэпятоўскай Чырванасцяжнай ордэнаў Суворава і Кутузава брыгады, ураджэнец Віцебшчыны, гвардыі маёр **Краўчанка Васіль Рыгоравіч.**

Радавы 2-га стралковага палка, 136-й стралковай дывізіі, ураджэнец Міншчыны **Кучко Сямён Ільіч.**

Памочнік начальніка штаба брыгады 25-й артылерыйскай дывізіі прарыву РГК, ураджэнец Полаччыны, маёр **Ланкевіч Міхаіл Пятровіч.**

Начальнік штаба 3-й гвардзейскай арміі, гвардыі генерал-лейтэнант, ураджэнец Гродзеншчыны **Любарскі Сцяпан Іванавіч.**

Радавы, ураджэнец Барысаўскага раёна **Макацерчык Уладзімір Іванавіч.**

Камандзір 1451 самаходнаартылерыйскага палка, ураджэнец Брэстчыны, маёр **Міхальчук Міхаіл Аляксандравіч.**

Камандзір 254-й стралковай дывізіі, ураджэнец Міншчыны, генерал-маёр **Пуцейка Міхаіл Канстанцінавіч.**

Намеснік начальніка тылу 38-й арміі, ураджэнец Брэстчыны, палкоўнік **Аляксей Цімафеевіч.**

*Даты?*
*Гэта толькі вехі гісторыі.*
*А для салдат,*
*чые навек закрыты вейкі,*
*Няма ўжо дат, ніякіх дат...*
*За рысай той — маўклiва,*
*пуста.*
*І на дарогах крыжавых*
*Узводзім помнікі і бюсты*
*Мы не для іх, а для жывых.*
*І для дзяцей, каб не зблудзілі*
*У гушчары нікчэмных дат,*
*Каб памяць песні нарадзіла*
*Аб неўміручасці салдат.*

Падрыхтаваў
**Барыс ЦІМАШЭНКА.**
г. Львоў.

МЕРКАВАННЕ

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА ЯК ФАКТАР УВАХОДЖАННЯ КРАІНЫ Ў СУСВЕТНАЕ СУПОЛЬНІЦТВА

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь атрымаў пісьмо ад жыхароў Луганскай вобласці Украіны, пад якім стаіць звыш трох тысяч подпісаў. У Луганску з'явілася ініцыятыўная група па стварэнню таварыства дружбы народаў Украіны і Беларусі, у якую ўваходзяць як украінцы, так і выхадцы з нашай рэспублікі. "Неабходны ўзаемасувязь і ўзаемадзеянне", — гаворыцца ў пісьме. Карэспандэнт БелТА папрасіў пракаменціраваць гэты факт памочніка Прэзідэнта Сяргея ПОСАХАВА.***

— Аўтары пісьма вельмі дакладна сфармулявалі галоўную думку аб неабходнасці ўзаемасувязі і ўзаемадзеяння ў справе аднаўлення і ўмацавання нашай дружбы. Але я хачу паставіць пытанне шырэй — аб ролі беларускай дыяспары ў краінах свету. На маю думку, у апошнія некалькі гадоў нашы адносіны з ёю крыху і "разладзіліся". А існуе такая цывілізаваная сусветная практыка, калі краіна-маці клапоціцца пра сваіх "дзяцей", якія па волі лёсу апынуліся ў іншых дзяржавах. І ў сваю чаргу, дыяспара аказвае дапамогу краіне. На жаль, трэба прызнаць, што мы ў гэтых адносінах недапрацоўваем. Напрыклад, у Расійскай Федэрацыі існуюць самыя магутныя ўкраінская, армянская, азербайджанская дыяспары. І яны аказваюць вельмі вялікі ўплыў на працэсы ўзаемавыгадных кантактаў гэтых краін з Расіяй. Менавіта дзякуючы таму, што існуе такое лобі, часта вырашаюцца вельмі сур'ёзныя праблемы і рознагалоссі. Вось чаму, на маю думку, работа з беларускай дыяспарай на сённяшнім этапе павінна стаць найвышэйшай задачай і дзяржавы ў цэлым, і яе інстытутаў — у прыватнасці.

Сяргей Посахаў адзначыў, што ў рэспубліцы існуе адобраная ў 1993 годзе Саветам Міністраў Дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", аднак цяпер узніклі нейкія цяжкасці з яе фінансаваннем. Гэту праблему неабходна неадкладна вырашаць, лічыць ён. Напрыклад, толькі ў адной Расіі ў буйных цэнтрах жывуць сотні выхадцаў з Беларусі, праз якіх можна рэалізоўваць многія праекты эканамічнага, культурнага і іншага характару. Але чамусьці гэта не робіцца або робіцца вельмі нясмела. Ніхто гэтымі пытаннямі не хоча займацца — не толькі дзяржаўныя, але і грамадскія структуры.

— Мы атрымліваем пісьмы, у якіх выхадцы з Беларусі просяць прысылаць дзяржаўную сімволіку, значкі, партрэты Францішка Скарыны, іншыя рэчы. І на гэта няма грошай. Але сапраўдную нацыянальную палітыку без грошай праводзіць наогул немагчыма. Калі мы не будзем мець апоры на выхадцаў з Беларусі ў іншых дзяржавах, наша эканоміка можа аказацца закрытай. Трэба апірацца на людзей, якія пішуць пісьмы, падобныя на луганскае. А самае галоўнае — рэаніміраваць праграму "Беларусы ў свеце". Прыярытэтам у гэтай рабоце павінны стаць Расія, Украіна, краіны Балтыі, Польшча, Канада, Аўстралія, дзе сканцэнтравана найбольшая колькасць беларусаў. Трэба рыхтаваць пад эгідай дзяржавы новы з'езд прадстаўнікоў беларускай дыяспары, — сказаў Сяргей Посахаў.

**Віктар ЛОЎГАЧ**, БелТА.



ГАСТРОЛЬНАЯ АФІША



НА ЗДЫМКУ: мастацкі кіраўнік оперы, народны артыст Беларусі Сяргей КАРТЭС (справа), дырыжор з Аўстрыі Ральф ВАЙКЕРТ і Дзіна РЫЧЫ, арганізатар і прэзідэнт фестывалю ў горадзе Салатурн (Швецыя), куды паедзе і спектакль "Турандот".

Фота Валерыя ХАРЧАНКІ, БелТА.

# АДЫГРАЛІ «ТУРАНДОТ» — І Ў ЕЎРОПУ

*Лета... Для адных — час адпачынку, для іншых — гастролей. Мой субяседнік — дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Сяргей КАРТЭС — напярэдадні гастролей у замежныя краіны расказаў пра творчыя планы на бліжэйшыя тры месяцы.*

— Мне вельмі прыемна паведаміць, што тэатральны сезон завяршыўся прэм'ерамі "Дон Жуан" Вольфганга Амадзя Моцарта (на італьянскай мове) і "Турандот" Джакома Пучыні. Трэцяга чэрвеня яе другое выкананне стала заключным акордам гэтага сезона. Мы прыклалі шмат намаганняў, каб пастаноўка ўбачыла свет. У першую чаргу гэта было звязана з цяжкасцю партытуры. Аднак старанная праца артыстаў і аркестра прывяла нас да жаданага выніку. Опера прайшла з поспехам. За дырыжорскім пультам быў Ральф Вайкерт (Аўстрыя), а на сцэне спявалі вядучыя салісты — Тамара Глаголева, Алег Мельнікаў, Вікторыя Курбацкая і Уладзімір Раеўскі, які дэбютаваў у гэтым сезоне. Сезон закрыты, але 27 чэрвеня тэатр запрашае на вечар старадаўняга раманса.

**— Штогод оперная трупа адпраўляецца на гастролі. А сёлета!**

— З 9 чэрвеня па 2 ліпеня мы ўжо другі раз будзем выступаць у Германіі. Нямецкі глядач зможа паслухаць оперу "Кармэн" Бізэ, а таксама "Баль-маскарад" і "Рыгалета" Дж. Вердзі. Акрамя гэтага мы дадзім пяць гала-канцэртаў. Усяго плануецца каля 18 выступленняў, якія пройдуць пад адкрытым небам на руінах замкаў у Кірне і Маншаў. Застаецца толькі спадзявацца, што надвор'е ў Германіі паспрыяе гэтаму.

З 4 па 15 жніўня галасы беларускіх выканаўцаў будуць гучаць у швейцарскім горадзе Салатурн. Прадстаўленні пройдуць у канцэртна-сцэнічным варыянце. Гледачоў чакае сустрэча з героямі опер "Набука", "Севільскі цырульнік", "Кармэн", "Травіята", "Турандот", "Дон Жуан". 20 жніўня тэатр вернецца на радзіму, і мы зноў сустрэнемся з беларускім гледачом.

**— У новым сезоне тэатр, напэўна, падорыць нешта цікавае, новае сваім гледачам!**

— Вядома, новы сезон — новыя ідзі, новыя пастаноўкі і сюрпрызы. З новымі сіламі і ўражаннямі мы распачнём сезон операй Мусаргскага "Барыс Гадуноў".

*Вось на такой прыемнай ноце і завяршылася размова з дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Сяргеем Картэсам. Усе планы раскрытыя, але, як гаварыў нямецкі паэт Гейнэ: "Там, дзе заканчваюцца словы, пачынаецца музыка!"*

Паліна КАЗІМІРСКАЯ.

ЗДАРЭННІ

**ПРАВААХОЎНЫЯ ОРГАНЫ БЕЛАРУСІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ВЫШУК ЭКС-КІРАЎНІКА НАЦБАНКА ТАМАРЫ ВІННІКАВАЙ, ЯКАЯ ХАВАЕЦЦА АД СЛЕДСТВА.** Фонаскапічная экспертыза, праведзеная спецыялістамі Дзяржаўнага крыміналістычнага цэнтра ў Беларусі, пацвердзіла, што радыёнтэрв'ю, якое прагучала раней у перадачах шэрагу замежных радыёстанцый, сапраўды давала экс-кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Віннікава, якая знаходзіцца ў вышуку. Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску генпракурор Беларусі Алег Бажэлка.

У адносінах Тамары Віннікавай была ўзбуджана крымінальная справа па падазрэнню ў раскраданні ў асабліва буйных памерах і злоўжыванні службовым становішчам. Арыштаваная ў студзені 1999 года былы кіраўнік Нацбанка была выпушчана з СІЗО пад падпіску аб невыездзе. Увясною мінулага года Т. Віннікава знікла з кватэры, у якой знаходзілася пад аховай.

Па словах Генпракурора, "у цяперашні час праваахоўным органам Беларусі невядомае дакладнае месца знаходжання экс-кіраўніка Нацбанка рэспублікі, якая знаходзіцца пад следствам".

Запыты па лініі МУС і Інтэрпола таксама пакуль вынікаў не далі, паведаміў А. Бажэлка.

**У ВЯСКОВЫМ ДОМЕ ЗНОЙДЗЕНЫ ГРАНАТАМЁТ.** Незвычайную знаходку выявілі супрацоўнікі Дзятлаўскага РАУС.

Работнікі крымінальнага вышуку праводзілі аператыўна-следчыя мерапрыемствы ў доме пенсіянеркі ў вёсцы Сцеркава Лідскага раёна. Якім жа было іх здзіўленне, калі на паддашку яны знайшлі гранатамёт "Муха". Зброя, як відаць, належыць сыну гаспадыні, які нідзе не працуе. Раней ён быў аб'яўлены ў вышук за ўчыненыя крадзяжы.

**МАЛАНКА АДНЫМ РАЗРАДАМ ЗАБІЛА 39 БЫЧКОЎ.** Гэта адбылося ў племсаўгасе "Высокаўскі" Клімавіцкага раёна.

Здарылася гэта пад вечар 30 мая. Ля вёскі Яноўка на летняй пашы знаходзілася звыш сотні жывёлін з мясцовай фермы. Калі пайшоў дождж, бычкі зблізіся ў кучу. У цэнтр яе і ўдарыла маланка. Ад разраду загінула 39 галоў.

Падрыхтавала Ірына ГАЙ.

КОРАТКА

### «НОЯ» — У ЛІКУ ПРЫЗЁРАЎ

У Маскве, у Гасціным двары, адбыўся фінал конкурсу маладых дызайнераў адзення "Новая Расія — XXI стагоддзе". Конкурс аб'яднаў маладых дызайнераў адзення з усіх рэгіёнаў Расіі, а таксама з Сярэдняй Азіі, Грузіі, Украіны, Беларусі. Усяго была паказана 61 калекцыя. Беларускую дэлегацыю прадстаўляў мастацкі кіраўнік цэнтра сучаснага стылю і моды "Universum models" Саша Варламаў, які прывёз у Маскву чатыры калекцыі, што перамаглі ў сакавіку гэтага года ў беларускім паўфінале на конкурсе "Супермадэль Беларусі-2000", прызнанага, дарэчы, адным з лепшых рэгіянальных конкурсаў.

Калекцыя Інесы Каппашнікавай "Ноя" ўвайшла ў лік прызёраў.

### ЗАПРАШАЕ ПОЛЬСКІ ДОМ

У літоўскім гарадку Эйшышкі пражывае многа палякаў і беларусаў — карэнных жыхароў і выхадцаў з суседняга Воранаўскага раёна Беларусі. На пачатку 2000-га года яны атрымалі адмысловы падарунак — у мястэчку адкрыты Польскі дом. Урачыстасць з гэтай нагоды адзначана змястоўным канцэртам гурта "Эйшышкяне", дзіцячага ансамбля "Кветкі польскія" і навучэнцаў мясцовай музычнай школы.

У новай установе пачалі працаваць розныя гурткі, праводзяцца цікавыя сустрэчы. Неўзабаве мяркуецца адкрыць там кнігарню.

Польскі дом у Эйшышках гасцінна адкрыты для тутэйшых палякаў, беларусаў, літоўцаў і служыць іх далейшаму яднанню і супрацоўніцтву.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ.

ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ

**НЯМЕЦКІ ДЫПЛОМ ПАСЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ.** Упершыню ў Доме дружбы 34 выпускнікі сталічных школ атрымалі дыпломы нямецкай мовы, якія заснавальнік Канферэнцыяй міністраў адукацыі і культуры земляў ФРГ.

Уручаў пасведчанні рэферэнт па пытаннях культуры амбасады Германіі ў Беларусі Штэфан Дэльфс.

Веды мінскіх вучняў лінгвістычнага ліцэя № 24 і школы № 73 ацэньваліся па нямецкіх стандартах. Атрыманы школьнікамі дыплом пацвярджае веды па нямецкай мове і прызнаецца ва ўсім свеце.

Гэты дакумент мае дзве ступені. Першая дае магчымасць вучобы на падрыхтоўчых курсах перад паступленнем у вышэйшыя навучальныя ўстановы Германіі. Другая ступень — менавіта такія дыпломы атрымалі беларускія школьнікі — дазваляе паступаць ва універсітэты без экзамена па нямецкай мове неграмадзянам Германіі.

Падобныя акцыі Канферэнцыя міністраў адукацыі і культуры земляў ФРГ праводзіць ужо 25 гадоў у 43 краінах свету. Цяпер да іх далучылася і Беларусь.

Вітаўт ДАШУК.



Выпускніца Віцебскага ліцэя № 1, студэнтка біялагічнага факультэта БДУ Тацццяна АЎЧЫННІКАВА — сярэбраны пераможца міжнародных алімпіяд па біялогіі ў Швецыі і Германіі. Тры гады запар яна была пераможцай рэспубліканскіх алімпіяд.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.



АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# АБАРОНЕНАСЦЬ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ

*За некалькі месяцаў супрацоўнікі Камітэта дзяржбяспекі, Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю канфіскавалі 40 тысяч адзінак нелегальнай прадукцыі і апаратуры для незаконнага тыражавання. Актывізацыя дзейнасці праваахоўных органаў павінна палепшыць становішча ў краіне ў галіне аховы інтэлектуальнай уласнасці, што ў сваю чаргу павысіць прэстыж Беларусі на міжнародным узроўні. Гэта вельмі актуальна, бо ўрад ЗША здзейсніў дэмарш, у якім пагражае адмовіць Беларусі ў прэферэнцыях. Тады будуць скасаваны льготныя мытныя пошліны на беларускі экспарт у ЗША. Сітуацыю каменціруе намеснік старшыні Камітэта па аўтарскаму і сумежных правах Аляксандр АБРАМЧУК:*

— Гэта было б вельмі неспрыяльным для эканомікі. Калі ўпадзе экспарт — знізіцца ўзровень айчыннай прадукцыі, а суадносна і жыцця. Таму Беларусь зацікаўлена ў выкананні Закона аб аўтарскім і сумежных правах. Новая рэдакцыя закона прайшла экспертызу і ўлічвае рэкамендацыі Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці.

Праца з затрыманымі кантрафактамі вельмі складаная. Патрабуецца абавязковая экспертыза. Каб яе дасканала праводзіць, у нашым камітэце не хапае людзей, апаратуры. Сілавыя органы не маюць вузкіх спецыялістаў па аўтарскаму праву. Таму цяпер вельмі актуальная праблема — наладжванне супрацоўніцтва ўсіх структур, якія займаюцца інтэлектуальнай уласнасцю. Тады выкананне закона будзе на больш высокім узроўні.

І яшчэ адзін аспект. Існуе пэўная эканамічная сітуацыя. Ліцэнзійны кампакт-дыск амерыканскай вытворчасці каштуе пяць долараў ЗША. Для большасці беларусаў гэта вельмі дорага. І калі пірацкую копію прапаноўваюць за тры долары, купляюць хутчэй яе.

Яшчэ складаней з праграмным забеспячэннем для камп'ютэраў.

У сярэднім яго кошт 300—500 долараў. У заходніх краінах у гэтую суму ўваходзіць, як правіла, і сервіс. У нас такога няма. А за 500 долараў у Мінску можна набыць камп'ютэр! Вось людзі і схіляюцца да набыцця больш танных, неліцэнзійных тавараў. Наогул, маштабы пірацкай вытворчасці і попыт на яе прадукцыю ў многім вызначаюцца ўзроўнем жыцця.

**— Якія захады, акрамя затрымкі незаконных вытворцаў, іх прадукцыі, можна сёння здзейсніць!**

— Вытворцы камп'ютэрных праграм, аўдыё-, відэапрадукцыі зацікаўлены ў атрыманні звышпрыбыткаў. Але факты сведчаць: у ЗША значна паменшыліся аб'ёмы пірацкай прадукцыі менавіта пасля зніжэння кошту ліцэнзійнага тавару.

Калі б хоць палова тавару, пра які мы гаворым, прадавалася па больш нізкіх цэнах, нелегалы былі б выцеснены з рынку, бо іх прадукцыя не вытрымала б канкурэнцыі з высакаякаснымі таварамі законных вытворцаў. Пакінуўшы яго аднойчы, вярнуцца амаль немагчыма. Праграмы, кампакты, касеты па спецыяльных, нізкіх цэнах могуць быць рэзлічаны, напрыклад, на навучальныя, медыцынскія ўстановы. Мы не адмовіліся б ад дапамогі Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці ў выглядзе стажыровкі нашых спецыялістаў за мяжой, набыцця апаратуры для правядзення экспертызы.

Нікому не хочацца губляць уласныя сродкі. Але ўсё роўна вытворцы кожны дзень страчваюць грошы. Часам лепш аддаць тавар амаль па сабекошту, чым дазваляць зарабляць на сабе злодзею.

**— Параўнайце, калі ласка, сітуацыю з рэалізацыяй аўтарскага і сумежных правоў у Беларусі, свеце, у СНД.**

— Беларусь далёка не горшая ў СНД у выкананні Закона аб аўтарскім і сумежных правах. Думаю, сітуацыя ў нашай краіне супастаўная са становішчам у Расіі.

У дзяржавах Сярэдняй Азіі не распрацавана нават заканадаўчая база. Так што пра рэалізацыю аўтарскага і сумежных правоў не даводзіцца гаварыць. У Заходняй Еўропе яна значна на значна больш высокім узроўні, чым у нас. Балгарыя да апошняга часу была лідэрам еўрапейскага пірацтва. Цяпер там сітуацыя трошкі палепшылася.

**— Што выйграе чалавек у дзяржаве, дзе сур'ёзна ставяцца да аўтарскага і сумежных правоў!**

— Любая краіна зацікаўлена ў стабільным папаўненні казны. На Беларусі гэта не толькі падаткі ад вытворчасці ліцэнзійных тавараў, але і камісійныя адлічэнні ад аўтарскіх ганарараў, якія збірае наш камітэт. Справядлівы збор падаткаў гарантуе меншы падатковы ціск на кожнага з нас.

Алена СПАСЮК.

СПАДЧЫНА




# ЛЮБАНСКІЯ ЗБІРАЛЬНІКІ

Любанскі дзяржаўны музей народнай славы створаны ў 1968 годзе, першая экспазіцыя адкрыта ў 1971-м. У 1994 годзе ўзведзены новы будынак і адкрыта апошняя экспазіцыя з умоўнай назвай "Чалавек і яго час". Фонд музея на 1999 год налічвае каля 17 тысяч адзінак захоўвання. Сярод іх вылучаецца калекцыя археалогіі — прылады працы першых насельнікаў краю (часу неаліту і эпохі бронзы), скарб манет Рэчы Паспалітай XVI—XVII стагоддзяў, прадметы сялянскага быту і ўжытку жыхароў мястэчка.

У фондах музея захоўваюцца шматлікія дакументы і фотадакументы, якія расказваюць пра асушэнне балот на Любаншчыне ў 20-я гады нашага стагоддзя, арганізатараў чырвонаармейскай камуны, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны — ураджэнцаў Любаншчыны, пра аднаўленне гаспадаркі раёна пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пасляваенныя дасягненні раёна ў сацыяльна-эканамічнай сферы.

Заслугоўвае ўвагі калекцыя народнага мастацтва. Гэта мясцовыя вырабы ткацтва, лозапляцення, бондарства, разьбы па дрэву. У XIX стагоддзі на Любаншчыне ў вёсцы Дарсіна сфарміраваўся цэнтр ганчарнага промыслу. У наш час традыцыі ганчарства працягвае народны майстар Міхаіл Насановіч, работы якога прадстаўлены ў фондах музея. На жаль, у раёне не захавалася прадметаў, якія характарызавалі б дзейнасць вядомай на ўвесь свет у XVIII стагоддзі Урэцкай гуты. У фондах музея маюцца толькі муляжы, выробленыя па чарцяжах даследчыка дзейнасці Урэцкай гуты М. Яніцкай рабочымі шклозавода "Нёман".

У апошнія гады фарміруецца фонд жывапісу — у музеі захоўваюцца работы прафесійных і самадзейных мастакоў, а таксама калекцыя абразоў.

**Н. СІНЯК.**

Фата Віктара СТАВЕРА.





● **Сяргей ЧЫГРЫН.**

# Генадзь КАХАНОЎСКІ— КРАЯЗНАВЕЦ

Завочнае знаёмства са славутым беларускім краязнаўцам, доктарам гістарычных навук Генадзем Кахаюўскім адбылося ў мяне ў сакавіку 1991 года. Не памятаю ўжо, пра што я яго пытаўся ў пісьме, але хутка атрымаў з Маладзечна адказ. Генадзь Аляксандравіч пісаў: "Добры дзень, калега Сяргей Чыгрын! Даўно я за табой сачу, чытаю, радуюся. Сапраўдны краязнавец! Малайцом, што збіраеш пра Слонімшчыну: па гісторыі, літаратуры, культуры. Я ўжо сам збіраўся напісаць, але Ты мяне апярэдзіў. Дзякуй! Так і трэба маладым..." і г. д.

Пасля было новае ліставанне, дзе Генадзь Каханоўскі адказваў на мае пытанні і разам з тым пісаў: "Спадзяюся, што ад Слонімскага краю не адступіце, будзеце прадаўжаць традыцыі лепшых краязнаўцаў".

Разам з тым Генадзь Аляксандравіч вучыў мяне краязнаўству: "Вельмі раю цяпер ужо ўзяцца за складанне ўласнага "банка ведаў Слонімшчыны". Зрабіце скрыначку, ці можа знаёмыя бібліятэкары дадуць свой "куфэрачак", і ў алфавітным парадку складайце карталюшкі з паметкаю, пра што гаворыцца (газета, кніга, часопіс і г. д.). А калі ёсць магчымасць, выразайце патрэбныя матэрыялы (як некалі рабіў для свайго архіва ксёндз Адам Станкевіч), а найлепш браць выкарыстаныя на адзін бок лісткі з рэдакцыі, а на другі — пісаць, што дзе здабудзеце. Тут могуць быць і тэматычныя картатэкі: 1. Першыя ўспаміны населеных пунктаў і легенды. 2. Паўстанні, выступленні. 3. Вайна 1812 года. 4. Паўстанне 1863 года. 5. Пісьменнікі Слонімшчыны. 6. Мастакі Слонімшчыны. 7. Тэатралы. 8. Кампазітары. 9. Вучоныя. 10. Хто пісаў (піша) пра Слонімшчыну і г. д. Абы была сістэма, бо пасля самі не разберацеся ва ўласным архіве. Раю па праву старэйшага...", — пісаў Генадзь Каханоўскі.

Здзіўляюся сёння, дзе ён знаходзіў час пісаць такія доўгія лісты-ўрокі, лісты-прапановы і парады. Ён жа пісаў не толькі мне, пісаў у архівы і бібліятэкі, сябрам і знаёмым. Ён, як Язэп Драздовіч, хадзіў па роднай зямлі, збіраючы па крупінцы звесткі пра забытых і малавядомых беларусаў, звесткі пра Маладзечна, Вілейку і пра іншыя мясціны Бацькаўшчыны. І яшчэ паспяваў адказваць на пісьмы.

Генадзя Каханоўскага сёння па праву можна назваць адным з заснавальнікаў беларускага гістарычнага краязнаўства. Бо яно, як кроў, жыло ў ягоных венах, ён дасканала ведаў краязнаўчую справу і атрымліваў ад гэтага пэўную асалоду. Іншым ён быць не мог. Бо яшчэ са школьнай парты зацікавіўся краязнаўствам Беларусі. А падчас працы ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі, што ў Маладзечне, сабраў значную колькасць рэдкіх выданняў і кніг. Некаторыя з гэтых выданняў былі ўключаны ў манаграфію "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст." Гэта была і засталася нам вельмі сур'ёзная і каштоўная праца. На жаль, пра яе ў свой час у беларускай прэсе напісалі вельмі мала. Я ведаю толькі адну рэцэнзію на гэтую манаграфію Анатоля Грыцкевіча і Алега Трусава, якая была змешчана ў вераснёўскім нумары "Нёмана" за 1985 год.



Кніга Генадзя Каханоўскага "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI— XIX стст." вельмі багатая на краязнаўчы матэрыял. На аснове апублікаваных і выяўленых у архівах і музеях матэрыялаў аўтар падсумаваў звесткі пра развіццё гістарычнага краязнаўства Беларусі ў эпоху феадалізму, канчаючы перадрэформенным перыядам XIX стагоддзя. Генадзь Каханоўскі гэтай працай правёў адбор найважнейшых матэрыялаў, звёў некаторыя факты з гісторыі вывучэння і аховы помнікаў, погляды на іх захаванне з боку дзяржаўных і прыватных асоб. Кніга каштоўная і тым, што аўтар цікава расказаў пра Зарыяна Даленгу-Хадакоўскага, Тэадора Нарбута, Канстанціна Тышкевіча, Адама Кіркора, Яўстафія Тышкевіча і іншых знакамітых беларусаў. А ў 1991 годзе разам з сынам Аляксандрам Каханоўскім яны ўпершыню выдалі асобную кнігу пра Яўстафія Тышкевіча — знанага беларускага этнографа, фальклярыста, краязнаўцу і археолага, сапраўднага "рупліўца нашай старасветчыны".

Упершыню з кнігі Генадзя Каханоўскага "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст." я даведаўся пра археолага Сяргея Дубінскага (1884—1937), гісторыка і паэта Мацея Стрыйкоўскага (1547—1586), этнографа, асветніка, дыпламата Яна Ласіцкага (1534—1605), гісторыка і царкоўнага дзеяча Ігната Кульчынскага (1707—1747), гісторыка і паэта Адама Нарушэвіча (1733—1796), літаратара і царкоўнага дзеяча Станіслава Багуш-Сестранцэвіча (1731—1826) і многіх іншых. Сёння пра кожнага з іх нам, краязнаўцам, літаратарам і гісторыкам, трэба пісаць кнігі. Пошукі іх слядоў ужо зрабіў Генадзь Каханоўскі, а працягваць — тым, хто сёння жыве і працуе на ніве адраджэння гісторыі Бацькаўшчыны.

Вынік шматгадовых краязнаўчых пошукаў Генадзя Каханоўскага — яго гісторыка-эканамічныя нарысы "Маладзечна", "Вілейка", кніга гісторыка-літаратурных нарысаў "Адчыніся, таямніца часу", кнігі пра Янку Купалу, Максіма Багдановіча і іншыя. Адны загалоўкі некаторых краязнаўчых артыкулаў нашага земляка інтрыгавалі, звярталі на сябе ўвагу: "Мастак Кастусь Харашэвіч" (Беларусь, № 7, 1977 г.), "Сем прыгод Богуш-Сестранцэвіча" ("Голас Радзімы", 20.03.80 г.), "Памяць і падзяка: Я. Колас на Маладзечаншчыне" ("Голас Радзімы", 18.11.82 г.), "Як выглядаў бацька Янкі Купалы" ("ЛіМ", 6.07.84 г.) і г. д.

У свой час Генадзь Каханоўскі ўзначальваў Беларускае таварыства краязнаўцаў. Праводзіліся з'езды, канферэнцыі, сустрэчы — адным словам, вялася пэўная работа. Ці існуе сёння ў нашай дзяржаве краязнаўчае таварыства? Хто яго ўзначальвае і што яно робіць? Я, шчыра кажучы, не ведаю. Тады быў Генадзь Каханоўскі, які добра ведаў усіх краязнаўцаў рэспублікі і сур'ёзна ставіўся да сваёй справы.

Нядаўна яшчэ раз перачытаў кнігі Генадзя Каханоўскага з аўтографамі. На тытульнай старонцы манаграфіі "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст." напісана: "Сяргею Чыгрыну — каб дапоўніў гэтую кнігу слонімскімі знаходкамі. Аўтар".

Прабачце, Генадзь Аляксандравіч, але ў параўнанні з Вамі мною яшчэ зроблена мала. Ці то я не ўмею працаваць так, як Вы, ці проста да Вас, як гісторыка і краязнаўцы, я ніколі не дасягну.

● **Георгій ШТЫХАЎ**, *доктар гістарычных навук.*

# ПРА ДРУЦК І КНЯСТВЫ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

## СВЕДЧАЦЬ ГЕАГРАФІЧНЫЯ НАЗВЫ

Гісторыя сярэдневечнага Друцка цесна звязана з гісторыяй найбольш старадаўніх беларускіх гарадоў і найперш з Полацкам, Менскам (сучасны Мінск), Віцебскам. Агульнасць лёсу прасочваецца ў паходжанні іх назваў. Свае найменні яны атрымалі ад назваў рэчак, на якіх былі першапачаткова заснаваны. Стары "Полцеск" заснаваны на Палаце — правым прытоку Заходняй Дзвіны. Зусім відавочна, што назва горада паходзіць ад наймення ракі Палаты. Старадаўняму звычаю надання назвы гораду ад ракі, на якой ён заснаваны, падпарадкаваны таксама стары Віцебск (Видьбеск), размешчаны на рацэ Віцьбе, папярэднік Менска, які знаходзіўся на берагах рэчкі Меня (Мінска), і іншыя. Назвы гарадоў утвараліся не выпадкова, а паводле пэўных заканамернасцей. У назвах найбольш старажытных гарадоў Полацкай зямлі ёсць нешта агульнае: усе яны заканчваюцца на -ск або -цк. Першая частка гэтых слоў адносіцца да назвы ракі. Не з'яўляецца выключэннем і старажытны Друцк.

У летапісах і сярэдневяковых дакументах назва горада абазначана словамі Друческ, Друцьск, якія ўтвораны ад назвы ракі Друць.

Назва ракі Друць мае балцкае паходжанне. Такая ж аснова сустракаецца ў назвах рэк на тэрыторыі Літвы і Латвіі. На думку даследчыкаў, найбольш верагоднае сэнсавае значэнне асновы тэрміна супастаўляльнае з літоўскім "друтас" — "вялікі", "шырокі".

Геаграфічныя назвы паслужылі адным з важкіх аргументаў для высновы, што з глыбокай старажытнасці, амаль да сярэдзіны першага тысячагоддзя нашай эры і яшчэ пазней, на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку на берагах ракі Друць, жылі балтамоўныя плямёны. З канца IV да VII стагоддзя нашай эры, калі адбывалася "Вялікае перасяленне народаў", некаторыя плямёны змяшчаліся на сотні кіламетраў, што карэнным чынам перакройвала этнічную карту Еўропы і не магло не закрануць тэрыторыю Беларусі.

## КРЫВІЧЫ-ПАЛАЧАНЕ

На працягу стагоддзяў славянскае насельніцтва рухалася з поўдня на поўнач у лясную зону ўсходняй Еўропы. Па вялікіх і малых рэках, займаючы падчас амаль не заселеныя лясныя тэрыторыі, рассяляліся свабодныя абшчыннікі — земляробы і бортнікі. Але не заўсёды мясцовае насельніцтва без нараканняў сустракала прышэльцаў. Сляды папялішчаў на балцкіх гарадзішчах сведчаць: тут здараліся жорсткія сутычкі.

Аднак мясцовае балцкае і фіна-угорскае насельніцтва, пераймаючы вопыт выкарыстання земляробчых прылад працы і іншыя дасягненні ў гаспадарчым жыцці, збліжалася са славянамі. Напачатку славяне і балты жылі асобна, але потым усё больш змешваліся ў адной тэрытарыяльнай абшчыне. Земляробы сумесна апрацоўвалі новыя землі, расчышчалі ад лесу і хмызняку, рассяляліся разам ці жылі "цераспалосна" з балтамі. Новыя адносіны парушалі былую замкнёнасць радоў. Гэтаму спрыялі і аднолькавыя вераванні славян і балтаў — язычніцкія. Як-ніяк, а паходзілі яны з адной — індаеўрапейскай супольнасці.

Балты пераймалі больш высокую земляробчую культуру славян. У сваю чаргу, славяне запазычылі ў балтаў назвы шэрагу рэк і азёраў, некаторыя віды ўпрыгажэнняў — тыпы шыйных грыўняў, бранзалетаў, галаўныя вянкі і іншыя. Многія гарадзішчы на тэрыторыі Беларусі пабудаваны балтамі. Славяне таксама будавалі гарадзішчы, каб замацавацца. Так у выніку змешвання балцкага насельніцтва з прышлымі славянамі складваліся перадумовы станаўлення беларускага этнасу. Славяне рассяліліся на неабсяжных прасторах раўніны ад Ладажскага возера на поўначы да прычарнаморскіх стэпаў на поўдні. Іх суседзямі былі шматлікія неславянскія плямёны. Усходнія славяне ў VIII—IX стагоддзях падзяляліся на этнічныя супольнасці, ці племянныя "княжанні", як яны названы ў летапісе. На тэрыторыі Беларусі знаходзілася некалькі такіх этнічных аб'яднанняў усходніх славян.

Гэта былі даволі ўстойлівыя этнаграфічныя аб'яднанні — крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў, якія ўтвараліся стыхійна ў выніку змешвання з балтамі і часткова з фіна-ўграмі. Яны ўяўлялі сабой не плямёны, як у раннім жалезным веку, а протанароднасці — "народцы", як іх называлі расійскія гісторыкі XIX стагоддзя. Адначасова аб'яднанне полацкіх крывічоў (палачан) было пачатковым дзяржаўным утварэннем, ці протадзяржавай.

Крывічы — вялікае аб'яднанне плямён з вярхоўяў Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі, поўдня Чудскога возера (Пскоўшчына). Звесткі пра іх змешчаны ў летапісах пры апісанні падзей XI—X стагоддзяў. Працэс фарміравання крывічоў — вынік асіміляцыі прышлымі славянамі мясцовых балцкіх і заходнефінскіх плямён, паступова славянізаваных.

Працяг будзе.




*Друцкае княства і яго асяроддзе ў XIV стагоддзі.*



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА "ЖЫЦЦЁ І ВЕРА"

ГУТАРКІ АБ ВЕЧНЫМ

# АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ ХРЫСЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ

## (X—XX СТАГОДДЗІ)



● **Уладзімір КОНАН**, *доктар філасофскіх навук.*

У 1988 годзе наследнікі старадаўняй Русі — беларусы, рускія і ўкраінцы святкавалі 1000-годдзе хрысціянства, якое прыйшло да нас у 988 годзе. Асноўная мэта хрысціянізацыі Русі — далучэнне яе праз хрысціянства да сусветнай цывілізацыі і культурнай традыцыі, у першую чаргу, да візантыйскай, з якой Кіеўскае і іншыя княствы наладзілі эканамічныя і культурныя сувязі. Першы летапісны звод на Русі — "Повесть временных лет" ("Аповесць мінулых гадоў", пачатак XII стагоддзя) апісвае гэтую падзею як свабодны выбар вялікага князя Кіеўскага Уладзіміра Святаславіча (кананізаванага Царквою, названага Роўнаапостальным і Хрысціцелем) паводле мастацка-эстэтычных крытэрыяў.

Да князя прыходзілі пасланцы ад волжскіх балгараў, якія прынялі іслам, ад яўрэяў, ад "немцаў" ("немцамі" на Русі называлі заходнееўрапейскія народы рымска-каталіцкай веры), агітавалі яго прыняць сваю веру. Іслам здаўся князю брыдкім, іудаізм — невыратавальнай верай, бо яўрэі страцілі сваю Зямлю Абяцаную, а заходнерымскі хрысціянскі абрад — няпоўным і "халодным". Нарэшце, паслаў князь пасольства ў Царград (Візантыю), якое, вярнуўшыся, распавядала пра красу і ўзнёсласць усходне-хрысціянскага абраду: "И придохом же въ Греки, и ведоша ны, идеже служать Богу своему, и не свемы, на небе ли есмы были, ли на земли: несть бо на земли такого вида ли красоты такоя, и не доумеемь бо сказати. Токмо то вемы, яко онъ де Бог с человеки пребываеть, и есть служба их паче всех стран. Мы убо не можем забыти красоты тоя: всяк бо человек, аще вкусить сладка, последи горести не примаеть; тако и мы не имамь где быти".

Кіеўскі князь пажадаў, каб ягоны народ прыняў новую веру адразу і па прыказу. Пасля прыняцця хрысціянства ў Корсуні і заручынаў з візантыйскай царэўнай Ганнай князь вярнуўся ў Кіеў: "Яко прииде, повеле кумиры привязати коневи ко хвосту и влещи с горы, и тети [біць] жезлом [...]. И привлекше, вринуша и во Днепр [...]. Посемь же Володимер посла по всему граду, глаголя: "Аще не обрящеться кто заутра на реце [для хрышчэння вадою. — **У. К.**] богат ли, ли убог, ли нищ, ли работник, противен мне да будеть".

Але рэальна хрысціянства на Беларусі распаўсюджвалася на працягу двух стагоддзяў. Спачатку пры князі Ізяславе (які аднавіў са згоды ягонага бацькі Уладзіміра Кіеўскага дынастыю полацкіх князёў) і яго маці Рагнедзе, былой жонцы Уладзіміра, высланай ім пасля свайго хрышчэння і шлюбу з сястрой візантыйскага цара ў гарадок Ізяслаў(цяперашняе Заслаўе). Там Рагнеда стала адной з першых манашак на Русі. Яшчэ раней пачалося хрышчэнне Тураўскага княства. Паводле Ніканаўскага летапісу, князь Ізяслаў быў "тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин и иноческий, и прилежаще прочитаню божественных писаний, и отвращался от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпелив". Завяршылася тут хрысціянізацыя пры ўнуку Ізяслава, славутым палкаводцу князю Усяславу Чарадзею (княжыў у 1044—1101 гадах) і ягоным сыне Барысе (памёр у 1128), памяць аб якім захавалася ў Барысавых камянях з выявай крыжа і кароткімі надпісамі-малітвамі. Высечаныя з суцэльных валуноў каменныя крыжы XII стагоддзя засведчылі пашырэнне хрысціянства ў Тураўскім княстве канца X—XII стагоддзяў.

Такім чынам, Тураў, Заслаўе і Полацк — першыя тры "калыскі" хрысціянскай рэлігіі ў Беларусі. Пазней (XII стагоддзе) цвярдыняй яе на тэрыторыі, акружанай язычніцкімі літоўска-яцвяжскімі плямёнамі, стаў Горадзень (цяперашняе Гродна), дзе была пабудавана і захавалася да нашага часу чацвёртая "калыска" хрысціянства — Барысаглебская (Каложская) царква. Але народ не адкінуў здабыткаў язычніцкай культуры — міфалогіі, прыкладнога мастацтва, фальклору, які развіваўся пад уплывам хрысціянства. Адбывалася кантамінацыя (спалучэнне) язычніцкіх архетыпаў і хрысціянскай гуманістычнай ідэалогіі, біблейскіх матываў, вобразаў і святаў, плённы ўзаемаўплыў двух тыпаў культур, адлюстраваны ў народным і царкоўным календарах, святах, абрадах, міфалогіі і фальклоры.

Гэтае суіснаванне і сумоўе ў вобразна-пластычнай форме выявілася ў багатых на беларускай зямлі помніках язычніцкай культуры, адкрытых археолагамі альбо захаваных на паверхні зямлі. Яны прыдаюць мясцінам Беларусі таямнічы пластычна-жывапісны выгляд. Захаваліся цэлыя комплексы, у тым ліку: гарадзішча, селішча і курганныя магільнікі каля вёскі Дулебы Бярэзінскага раёна на правым і левым берагах ракі Дулебы; курганная група і "Дзявочая гара" за 500 метраў ад вёскі Дуброва Маладзечанскага раёна; група помнікаў каля вёскі Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці (шэсць паселішчаў, гарадзішча і курганны могільнік). Жывапісна захаваліся рэшткі язычніцкіх свяцілішчаў каля вёскі Краманец Лагойскага раёна (поруч — Даждбогаў, альбо Святы камень), Гудавіцкае свяцілішча Чэрвеньскага раёна (вёска Гудавічы); свяцілішча ў комплексе з селішчамі і курганамі XI—XII стагоддзяў за 3—6 кіламетраў ад вёскі Ходасевічы Рагачоўскага раёна. Да пачатку XX стагоддзя захавалася язычніцкае свяцілішча ў Мінску на правым беразе Свіслачы (насупраць цяперашняга Дома настаўніка).

У гісторыі хрысціянства ўсходняга абраду (з сярэдзіны XI стагоддзя — праваслаўя), каталіцтва, іншых канфесій выдзяляюцца пяць асноўных этапаў: асветніцкі, палемічны, дагматычны перыяд (з тэндэнцыяй да нацыяналізацыі царквы і касцёла), этап ганенняў на хрысціянства ў савецка-бальшавіцкі перыяд, урэшце, сучасны этап хрысціянскага адраджэння. На першым этапе (X — першая палова XVI стагоддзяў) выдатнымі хрысціянскімі асветнікамі былі заснавальнікі беларускай праваслаўнай царквы Рагнеда Рагвалодаўна (каля 960—1000), пра якую ўжо ішла гутарка, Ефрасіння Полацкая (свецкае імя Прадслава, каля 1110—1173), Кірыл Тураўскі (каля 1130 — пасля 1190), Клімент Смаляціч (памёр пасля 1164), Аўраамій Смаленскі (сярэдзіна XII стагоддзя — каля 1219), Рыгор Цамблак (каля 1364 — каля 1450). Гэтую плеяду беларускіх хрысціянскіх асветнікаў замыкае свецкі пісьменнік, біблеіст і ўсходнеславянскі першадрукар Францішак Скарына (каля 1490 — каля 1551 года).

Працяг будзе.



Касцёл Сэрца Ісуса, што ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна, — адзін з найпрыгажэйшых помнікаў культавага дойлідства Віцебшчыны.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

НОВЫ ХРАМ

# НА РАДАСЦЬ ВЕРНІКАМ

На Воранаўшчыне прыхільнікаў праваслаўя толькі каля 13 працэнтаў ад усяго насельніцтва раёна. Апошнюю царкву тут мясцовыя старажылы слаба памятаюць. Вядома, што яна была пабудавана ў 1914 годзе графіняю Марыяй Пляміннікавай у вёсцы Праважа. Затым адбылася рэвалюцыя... І храм з цягам часу перастаў існаваць.

А шэсць гадоў таму ў гарадскім пасёлку Воранава быў закладзены фундамент новай царквы. Вернікі кажуць: добра, што за гэтую справу ўзяўся айцец Мікалай Семашкевіч, малады святар, які карыстаецца аўтарытэтам сярод мясцовага насельніцтва. Чалавек ён ініцыятыўны, энергічны. Паспяваў адразу і будаўніцтвам займацца, і службу адпраўляць у прыстасаваным памяшканні.

Нядаўна, на вялікую радасць прыхаджан, у Воранаве адбылося асвячэнне царквы. З такога выпадку сюды прыехаў Яго Праасвяшчэнства епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Арцемій, прадстаўнікі духавенства вобласці.

Пры цырымоніі асвячэння прысутнічалі кіраўнікі раёна.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ.**





НА ЗДЫМКАХ: царква ў Воранаве; сустрэча Яго Праасвяшчэнства епіскапа Арцемія.

**Фота аўтара.**

2000-годдзе ХРЫСЦІЯНСТВА

# РАЗЛЯЦЯЦЦА ПА СВЕЦЕ

У 2000 годзе ўведзены ў абарачэнне блок сумеснага выпуску паштовых адміністрацый Беларусі, Расіі і Украіны з трох марак, прысвечаных 2000-годдзю хрысціянства. На марках — адлюстраванне святых, прадстаўленых епархіямі трох славянскіх краін. Багародзіца Аранта, мазаічная ікона XI стагоддзя, якая знаходзіцца ў Сафійскім саборы ў Кіеве, Хрыстос Усетрымацель. Фрэска XII стагоддзя Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку і Багародзіца Уладзімірская. Ікона XII стагоддзя з Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі ў Маскве.

НА ЗДЫМКУ: блок марак сумеснага выпуску паштовых адміністрацый Расіі, Беларусі, Украіны.

**БелТА.**




ГАНАРОВЫ ЗАКАЗ





# ОРДЭНЫ КРЫЖА ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ ВЫРАБЛЕНЫ Ў ГОМЕЛІ

● **Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.**

Дзевяць ордэнаў Крыжа Прападобнай Ефрасінні Полацкай было выраблена па заказу Патрыярха Усяе Русі Аляксія II на гомельскім аб'яднанні "Крышталь". Заказы на выраб падобнай прадукцыі паступаюць не толькі з блізкага замежжа.

НА ЗДЫМКАХ: майстры ювеліры эксклюзіўнага ўчастка, дзе вырабляюць дзяржаўныя ўзнагароды, Максім БУТКЕВІЧ і Максім ВАРАНЬКО; ордэны Прападобнай Ефрасінні Полацкай розных ступеняў.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ЛАТВІЯ

## ДОБРАЯ НАГОДА

Цэнтр беларускай культуры ў Даўгаўпілсе адзначыў год сваёй працы, напружанай, натхнёнай. Сярод іншага, менавіта ў гэты час створаны маладзёжны квартэт, дуэт баяністаў, дзеці беларускай нядзельнай школы пачалі рэпетыцыі ў ляпечным тэатры. Свае здольнасці яны і паказалі ў святочным канцэрце разам з ансамблем "Купалінка". Гучалі тут і вершы на беларускай мове. Сярод удзячных гледачоў і слухачоў былі генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Васіль Марковіч, генеральны консул Расіі ў Даўгаўпілсе Мікалай Бандарэнка, віцэмэр Даўгаўпілса і іншыя паважаныя людзі. Яны сказалі нямала добрых слоў у адрас супрацоўнікаў ЦБК і сяброў "Уздыму". Дырэктар цэнтра беларускай культуры Аляксандр Рудзь, які ўваходзіць і ў раду "Уздыму", не збіраецца спыняцца на дасягнутым, а разам з усёй тутэйшай беларускай грамадой папаўняе скарбонку беларускай культуры ў Даўгаўпілсе.



*З прывітальным словам выступае генконсул Васіль МАРКОВІЧ.*

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

ЗША

# КАБ ВЕДАЛІ

● **Яўген ЛЕЦКА.**

Імя Янкі Запрудніка шырока рэкламаваць не выпадае: гэта адзін з самых актыўных і глыбока дасведчаных у гісторыі свайго народа і ягонай культуры людзей на эміграцыі. Вядомасць, асабліва ў заходнім свеце, наш суродзіч здабыў дзякуючы свайму канкрэтнаму ўдзелу ў самых розных мерапрыемствах, што ладзіць дыяспара Злучаных Штатаў Амерыкі, свайму аўтарытэтнаму голасу, да якога прыслухоўваюцца і які паважаюць не толькі беларуская эміграцыя, але і афіцыйныя ўлады. Бо тое, пра што піша і гаворыць Янка Запруднік, зазвычай грунтуецца на фактах, на канкрэтным гістарычным матэрыяле, ды эмацыйна падмацоўваецца ягонай выразнай і паслядоўнай грамадзянскай пазіцыяй, у аснове якой адназначнае сцвярджэнне права беларусаў на сваю, ні ад кога незалежную дзяржаву, свой адметны і самабытны шлях, свой духоўна-нязмушаны ўклад у скарбніцу развіцця чалавецтва. Тут ён, жывучы ў Амерыцы, новага "ровара" не вынайшаў, бо яго ўжо вызначылі беларускія волаты Адраджэння пачатку стагоддзя: Янка Купала і Вацлаў Ластоўскі, браты Луцкевічы і Максім Багдановіч... Зрэшты, такім шляхам, але кожны народ па сваёй сцяжыне-каляіне, ідзе ўсё чалавецтва.

Янка Запруднік — аўтар шматлікіх навуковых і публіцыстычных публікацый як у беларускамоўнай, так і англамоўнай прэсе. Найважнейшыя з іх — "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях" і "Беларускі гістарычны слоўнік". Першая па-ангельску выйшла ў ЗША, потым у перакладзе выдадзена "Бацькаўшчынай" тут, у Беларусі. Трэба спадзявацца, што на радзіме пабачыць свет і Запрудніkaў гістарычны слоўнік, бо такая праца зроблена ўпершыню і аналагаў ёй у нас няма. Апрача гэтага, Янка Запруднік напісаў яшчэ адну грунтоўную працу пра Беларусь, якая выйшла пад адной вокладкай з такім жа панарамным аглядам пройдзенага Малдовай праз вякі, асэнсаваным, зразумела, малдаўскім аўтарам.

Нават на падставе сказанага можна ўсвядоміць, якую адказную місію выконвае наш суродзіч у англамоўным (беларускім эміграцыйным таксама) свеце, бо ад таго, што напіша і скажа Янка Запруднік, у значнай ступені будзе залежаць тое, якое ўражанне складзецца ў англамоўнага чытача пра наш народ і наш край. У гэтым сэнсе роля Янкі Запрудніка выключная. Побач з ім хіба што можна паставіць толькі Расціслава Завістовіча, які ўзначальвае такую грамадскую арганізацыю, як Беларускі Кангрэсовы Камітэт Злучаных Штатаў Амерыкі, з'яўляецца старшынёй Камітэта этнічных меншасцей пры Кангрэсе ЗША і актыўна як публіцыст выступае ў друку, найперш у "Беларускім дайджэсце" — газеце, якую рэдагуе і выдае Мікола Пруські.

Падставай для нашай гаворкі стала з'яўленне ў англамоўным выданні "Belarusian revier" ("Беларускі агляд") чарговай публікацыі Янкі Запрудніка. Але па ходу колькі слоў пра згаданае перыядычнае выданне. Гэта часопіс, які выдаецца дзякуючы стаpанню нязменнага ад пачатку заснавання рэдактара і вялікага рупліўца Беларусі як суверэннай дзяржавы і беларусаў як самабытнага славянскага этнасу Міколы Арцюха. Выданне англамоўнае і ўяўляе сабой своеасаблівы дайджэст, а таму па структуры (прынцыпах складання) пэўным чынам перагукаецца з ужо згаданым друкам Міколы Прускага, які выходзіць па-беларуску і пераважна зарыентаваны на "гарачы" матэрыял, гэта значыць, на тое, што адбываецца сёння, цяпер у Беларусі, увогуле, калі шырэй, то і ва ўсім беларускім свеце, які, само сабой, уключае жыццё нашай дыяспары.

У першым нумары сёлетняга Арцюховага "Беларускага агляду" найбольш значная і цікавая публікацыя — арыгінальны (друкуецца ўпершыню) артыкул Янкі Запрудніка, у аснову якога пакладзены прачытаны ў лютым на семінары ў Басце (Англія) даклад пад назвай "Беларусь: Забытае сэрца Еўропы". Аўтар параўноўвае папярэдняе і апошняе па часе дзесяцігоддзі ў Беларусі па наступных пазіцыях: палітычны статус краіны; сацыяльная структура грамадства; нацыянальна свядомая інтэлігенцыя; узровень адукацыі і стан нацыянальнай мовы ў грамадстве і беларускамоўным друку; беларускія грамадскія арганізацыі; роля дыяспары; стаўленне Міжнароднай супольнасці да беларускай нацыянальнай ідэі.

Аўтар прыходзіць да высновы, што ў Беларусі цяпер выяўляецца прыкметная цяга да нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Аднак дзяржаўнасць і незалежнасць рознымі пластамі грамадства, яго грамадска-палітычнымі сіламі ўсведамляюцца неадназначна, часам супрацьлегла, і гэта жывіць грунт палітычнай барацьбы. Таму і надалей два "кіты" — суверэнітэт і дэмакратыя застаюцца асноўнымі мэтамі апазіцыі, тым полем супрацьстаяння, на якім яна імкнецца пераняць ініцыятыву ад сённяшняй афіцыйнай улады і ўрэшце здабыць перамогу...

ДАБРАЧЫННАСЦЬ



Сумесная акцыя "Мастацтва ў бальніцы", якую праводзяць на Гомельшчыне па праграме ЮНЕСКА нямецкія мастакі і прадстаўнікі Чырвонага Крыжа з Германіі, а таксама беларускія мастакі з творчага экалагічнага аб'яднання "МЭЯ", становіцца ўжо традыцыйнай. Праходзіць яна звычайна ў невялікіх сельскіх бальніцах, пацыенты якіх знаходзяцца далёка ад ачагоў мастацтва або проста прыкаваныя хваробаю да ложка. Сёлетняя акцыя прымеркавана да чарговай чарнобыльскай даты і накіравана на падтрымку людзей, што пацярпелі ад аварыі.

НА ЗДЫМКУ: арганізатары акцыі ў Бярозках — прыгарадзе Гомеля.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ШЛЯХ

# «Я ШЧАСЬЛІЎ ТАДЫ, РОДНЫ

● **Лідзія САВІК.**

А Хведар Ільляшэвіч, апынуўшыся ў англійскай зоне акупацыі Германіі, у горадзе Ватэнштэце, дзе жылі ў лагеры перамешчаных асобаў беларусы-эмігранты, зноў распачаў працу па аб'яднанню суайчыннікаў. Па ўспамінах Раісы Жук-Грышкевіч, гэты беларускі лагер быў заснаваны ўлетку 1945 года, меў беларускага каменданта, паліцыю, агульную кухню. Была свая царква, пачатковая школа, гімназія, дзе ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску, мужчынскі і жаночы скаўтынг, ратататарнае выдавецтва, медыцынскі цэнтр. У лагеры адзначаліся беларускія нацыянальныя і рэлігійныя святы, працавала мастацкая самадзейнасць, хор, ставіліся тэатральныя пастаноўкі. Адным з арганізатараў гэтага жыцця быў Х. Ільляшэвіч. Ён асабліва клапаціўся пра нацыянальнае ўзгадаванне беларускай моладзі. Акрамя скаўцкіх школьных арганізацый, выкладання роднай мовы і літаратуры ў гімназіі імя М. Багдановіча, ён пісаў для самадзейнага тэатра п'есы ("У Купальскую ноч", "Шэрыя дні"), падбіраў розныя нумары для мастацкай самадзейнасці, слаў лісты кампазітару М. Равенскаму з просьбай прыслаць ноты беларускіх песень. Шмат часу аддаваў выдавецкай дзейнасці: акрамя рэдактарства, сам станавіўся ля ратататарнага станка, выдрукоўваў часопісы, газеты (у Ватэнштэце выходзілі "Шляхам жыцьця", "Царкоўны голас", "Беларускі Скаўт", "Скаўт", "Скаўцкі Бюлетэнь", "Юнак", "Апошнія весткі"). Ён выдаваў падручнікі, дзеля чаго была заснавана выдавецкая суполка "Заранка", дзе выйшлі яго чытанкі "Родны палетак", "Малюнкі мінулага", хрэстаматыя "Наша Краіна", многія творы беларускіх пісьменнікаў, казкі, пераклады, кнігі па рэлігійнаму выхаванню.

Хведар Ільляшэвіч быў адным з самых адукаваных у асяроддзі беларускай эміграцыі людзей: пісьменнік, навуковец, выдатны музыкант, педагог, валодаў нямецкай, англійскай мовамі. Добра разумеючы ролю рэлігійнага выхавання, змагаўся за Беларускую Аўтакефальную праваслаўную царкву. Удзельнічаў у беларускіх грамадска-арганізацыйных з'ездах і нарадах, уваходзіў у склад Беларускага Дапамогавага камітэта англійскай зоны. У часопісах друкаваў свае артыкулы: "Нашы песьняры" (творчасць Н. Арсенневай і М. Сяднёва, якія таксама жылі ў гэтым лагеры), "Пясьнярка барацьбы" (пра Цётку), "Пясьняр неўміручае красы" (да 30-х угодкаў ад дня смерці М. Багдановіча), "Прарок беларускага народу" (ідэя Беларускага Адраджэння ў творах Янкі Купалы), "Сярод кніг" (водгук на паэму М. Сяднёва "На край святла"), артыкулы пра скаўцкі рух, актыўным арганізатарам і ўдзельнікам якога быў сам пісьменнік. Усе гэтыя і многія іншыя артыкулы друкаваліся на працягу 1946—1948 гадоў пад самымі рознымі псеўданімамі: М. Дальны, С. Залужны, Л. Іскра, Стары, Стары Скаўт (пад крыптанімамі: І-ч, М. Д., С. З., Х. І., Ю. М.). Пісаў вершы, апавяданні ("Сон", "Танго "Нотурно", "Вызваліліі", "Спатканьне", "На рубяжы", "Худыя плечыкі"), рыхтаваў да выдання кнігу "Нязжатая радасьць", мяркуючы ўключыць у яе і новыя, і раней напісаныя творы. Х. Ільляшэвіч заўсёды трымаў цесную сувязь з сябрамі па пяру, дасылаў свае вершы, артыкулы ў "Шыпшыну", ліставаўся з Ю. Віцьбічам, іншымі пісьменнікамі, уваходзіў у літаратурнае згуртаванне "Шыпшына", як адзін з яго заснавальнікаў і шчырых прыхільнікаў, лічыў, што часопіс "Шыпшына" супольнымі пісьменніцкімі сіламі павінен быць узняты на адпаведную мастацкую вышыню: "Да гэтых вышыняў мы дойдзем, — пісаў Х. Ільляшэвіч у 1947 годзе. — Я асабіста задаволены, што творыцца новы Саюз пісьменнікаў і журналістаў, я спадзяюся, што хто-хто, а пісьменнікі хіба ж у сваёй працы ня пойдуць тымі дарогамі, якімі пайшлі некаторыя нашы арганізацыі. Каб жа стварэньне новага згуртаваньня пісьменьнікаў сьведчыла аб нашым духоўным росьце й багацьці... Я далей застаюся "шыпшынаўцам", бо я ў "Шыпшыне" чуюся нічым ня зьвязаным у сваіх творчых начынаньнях, і яе прыгожы ідэал мне вельмі даспадобы...

У час горкіх выпрабаваньняў (калі беларускі пісьменнік часта даслоўна адчувае правакацыйную "траўлю") няхай яшчэ мацней аб'яднаецца нашая дружная сям'я, няхай дух сяброўства пануе сярод нас, а ідэалы 25 сакавіка непахісна вядуць нас у далейшай нашай працы. Справа, якую мы пачалі, не павінна замерці. "Шыпшына" ўвойдзе ў гісторыю беларускай літаратуры і гісторыю нашага руху. Толькі мы павінны гарачэй праняцца нашай працай, пастарацца, каб наш часопіс выходзіў часьцей, ды — друкам. Я, прызнаюся, сам мала спрычыняўся да працы нашага Згуртаваньня: розныя справы былі на перашкодзе. Я адчуваю, што так ня можа быць далей. Я пачну больш працаваць для нашай літаратуры, што заўсёды ляжала і ляжыць мне на сэрцы..." (Архіўная кніга. Нью-Йорк. 1997).

Аднак нялёгка пісаліся вершы ў гэты складаны, цяжкі час, калі паэту здавалася, што надышоў крах усім спадзяванням на адраджэнне Беларусі, ажыццяўленне нацыянальных ідэй. Гэтыя амаль роспачныя настроі, перажыванні паглыбляліся яшчэ і тым, што Х. Ільляшэвіч вельмі хваравіта ўспрымаў палітычны раскол паміж беларусамі-выгнанцамі, бо сам спавядаў ідэі яднання, агульнай працы на ніве беларушчыны. Знешне ён усяго сябе аддаваў гэтай працы, быў у цэнтры лагернага жыцця Ватэнштэта, хоць і адчуваў яго часовасць, нестабільнасць, не прыняў некаторыя бакі лагернай "дэмакратыі". Захаваліся ўспаміны сучаснікаў пра гэты перыяд жыцця паэта. Адны з іх успрымалі Х. Ільляшэвіча як чалавека "працавітага, адданага, сімпатычнага, ціхага", гатовага ўзяць на сябе клопаты іншых, другія паважалі яго як паэта, трэція лічылі яго "дарослым бездапаможным дзіцем", якое часта трапляла ў складаныя абставіны, нікога не хацеў пакрыўдзіць, аддаваў людзям усё, што мог, іншыя не разумелі і асуджалі паэта за бескарыслівасць, абыякавасць да ўласнага побыту, з-за чаго ён часта пакутаваў, цярпеў розныя знявагі, маральныя прыніжэнні. Побач не было духоўна блізкіх людзей, хто б усё разумеў, падтрымліваў. Пакутуючы ад такога адзіноцтва, Х. Ільляшэвіч усе гэтыя гады ў

**Працяг.**
**Пачатак у №№23—24.**



**Хведара ІЛЬЛЯШЭВІЧА**

# «КАЛІ ВОЛЯЙ НАПОЎНІЦЦА НАШ КРАЙ»

Ватэнштэце вёў "Чорны сшытак", які пазней трапіў у архіў Ю. Віцьбіча і старонкі якога расчытаны толькі цяпер (Архіўная кніга, Нью-Йорк. 1997, с. 159—177). А тады Ю. Віцьбіч пісаў: "ЗША. Саўт Рывер, 1953 год. Жменька ўжо крыху пажоўклых ад часу лістоў, вершы, апавяданьні, маленькі зшытак у чорнай вокладцы — гэта ўсё рэчовае, матэр'яльнае, што засталося ў мяне ад Хведара Ільляшэвіча. Пяшчотна пераглядаю лісты і не заўважаю ў іх аніякіх скаргаў на асабістае. Усё аб суродзічах і пасьля гэтага крыху між іншым аб сабе... Я бяру маленькі чорны зшытак. Ён складаецца з пачатых, але ня скончаных вершаў. І яны ніколі не будуць скончаныя. Таму асьцярожна перагортваю кволыя старонкі. І раптам пераконваюся, што гэты зшытак магчыма зусім не выпадкова чорны. У ім столькі суму... Можа ніхто гэтак не сумаваў па сваёй сям'і, як Хведар Ільляшэвіч. І як спалучыць творчасць з чорнага зшытку з заўсёды жыцьцярадасным, энергічным Хведарам Ільляшэвічам? Можа ў ім знайшлі адбітак толькі вузка асабістыя перажываньні, на якія ня мае права жаўнер, што змагаецца за незалежнасць свае Бацькаўшчыны? А можа часам сваё асабістае гора здаецца маленькім і ня вартым агульнае ўвагі ў параўнаньні з бязьмежна вялізарным горам свайго Народа, за шчасьце якога трэба змагацца?.." (Недапетая песьня).

І сапраўды, у "Чорным сшытку" шмат цікавых празаічных накідаў, настраёвых занатовак, асабістых запісаў, розных цытат, прозвішчаў і, самае галоўнае, некалькі глыбокіх змястоўных вершаў, найперш прысвячэнняў: "Сябрам", "Жонцы". Гэтыя вершы прыадчыняюць унутранае жыццё паэта, яго духоўны стан, пазначаны тужлівымі настроямі, настальгічнымі матывамі, абумоўленымі чужой краінай, адарванасцю ад родных, няпэўнасцю ўласнага становішча.

*Асеньні шторм. Чужы мне*
*лістапад*
*(паўночны шторм)?*
*Лісьцё мяце паўночны вецер,*
*Паўночны шторм... Чужы мне*
*лістапад*
*Пануры вецер сэрца смуціць.*
*Маўкліва я сяджу,*
*Каб глянуў хто,*
*Ахінуты ў анучы той жабрак!*

*Ні гуку. Ноч. Як у магіле...*
*Успаміны наплываюць*
*(як хмары),*
*Дзе вы, сябры?*
*Я вам, няведамым сябрам,*
*даўно пішу, складаю*
*гэты верш.*
*Складаю днямі і начамі.*
*І вось у гэты шторм —*
*папера замакрэлая і алавік*
*ня піша,*
*і плачуць з ветрам строфы,*
*як сэрца абрываецца...*

Нараканні на лёс, адзіноцтва, успаміны аб лепшых днях — гэта тое, нікому не бачнае, жыццё, якое ў падтэксце давяралася толькі чорнаму сшытку і дайшло да нас як сведчанне цяжкіх, пакутлівых перажыванняў беларускага паэта. "У гэтым, — па сведчанні Л. Юрэвіча, які рыхтаваў для Архіўнай кнігі "Чорны сшытак", — гранічна асабістым сшытку, няма ні аднаго радка, напісанага ад першай асобы. Толькі ў вершах аўтарскае "Я" адкрыта, бо ў паэзіі аўтарскае "Я" звычайна ўспрымаецца, як "Я" лірычнага героя. Лірычным героем аўтар як бы прыкрывае боль сваёй душы. Ва ўсіх іншых запісах Ільляшэвіч нібы старонні назіральнік, дакладней сказаць, пісьменнік, для якога й вонкавыя з'явы і ўнутраныя аднолькава пераплаўляюцца ў новы, нікім яшчэ ня бачаны сьвет новага твору. Чорны сшытак — гэта быццам накід аповесьці ці рамана, зроблены пісьменнікам, які выключна валодае самымі авангарднымі прыёмамі, у тым ліку "плыньню сьвядомасьці", кінематаграфічным мантажом, зьмяшчэньнем вобразу і г. д.".

Усё тое, як і чым ён жыў у выгнанні, Х. Ільляшэвіч выказаў у метафарычных радках верша "Разьвітаньне": "Я іду дзён пажоўклых восень // у бездарожжах далей валачыць..." Адпаведныя настроі гучаць ва ўсіх вершах апошняга перыяду творчасці (1946—1948), дзе ён аплаквае "горкія няўдачы пройдзеных дарог".




*Збіральшчыкі спадчыны Хведара Ільляшэвіча: Юры ПОПКА, Тамара і Барыс КІТ.*

Абарваныя песні, недасненыя сны паэта аб радзіме — Беларусі, развітанне з ёю і марамі пра асабістае шчасце і волю Бацькаўшчыны сталі ўнутранай драмай Х. Ільляшэвіча. Пра сваё жыццё і адчуванні апошніх гадоў Х. Ільляшэвіч пісаў у адным з лістоў да Вольгі Таполі: "...Вы хочаце даведацца, як жыву я? Пастараюся апісаць Вам маё жыцьцё: жыву я ў лягеры. Харчаваньне цяпер неважнае, прыходзіцца крыху і галодным быць, але, вядома, сярод людзей, ды да таго сваіх, усё лягчэй. Сямейныя неяк даюць раду, я ж жыву адзін, працую ў гімназіі, якая ёсць у лягеры, заняты рознымі іншымі справамі. Мой дзень перапоўнены align рознай драбязой. Цяпер я маю шмат лекцыяў у гімназіі, трэба рыхтавацца. Нікуды ня езджу, не маю бліжэйшых знаёмых, з якімі мог бы падзяліцца сваімі асабістымі настроямі — думкамі. Нейкая туга агортвае мяне — гэта вынік лягернага жыцьця. Мой пакоік няцікавы: за сьцяной увесь час раздаюцца галасы, вакно выходзіць на сьцяну, крыху відаць далі, але і там баракі і коміны псуюць выгляд. Уночы прыемныя гудкі паравоза (блізка станцыя). Адно акно. Перад ім букет пажоўклых лістоў з лесу.

Выходзіць зусім так, як сказаў, здаецца, Арцыбышаў, што пісьменнік куды цікавейшы ў сваіх творах, чым у жыцьці.

Але гэта ўсё, ясна, толькі адна абстаноўка: у душы пісьменніка адбываецца, безумоўна, цікавае жыцьцё...

На жаль, жыцьцё маё неяк складаецца ўвесь час так, што я не магу вылучна заняцца літаратурай. Я б, безумоўна, мог нешта напісаць. Прыходзіцца пісаць прыхваткамі, як кажуць. Ненапісанае асыпаецца, як пажоўклыя лісты, па шляхох.

...Я яшчэ напішу некалькі расказаў з больш-менш закончаным сюжэтам. Але маё імкненьне напісаць новыя расказы, дзе ня будзе сюжэту, а будзе толькі кавалак жыцьця, бяз пачатку і канца, падмалёваны лірыкай. Нешта падобнае на "Разьвітаньне", друкаванае калісь у "Калосьсі", адборнае лірычна. Я часам прыпамінаю, што я напісаў. Усё раскіданае, таму няма ніякага суцэльнага ўражаньня аба мне. Ды я і сам неяк яшчэ ня веру, што я пісьменнік. Расказы: "Шопат зямлі", "На дарогу", "Мастацтва", "Шумяць сосны", "Развітаньне", "Сыпаўся вішнёвы цьвет", "У цягніку", "Спатканьне", "Сон", "Танго Нотурно", апошняе "На рубяжы" — усё гэта, ясна, толькі спробы. Перада мной, спадзяюся, лепшае. Да 1950 г. я пастанавіў яшчэ прабаваць шчасьця ў прозе. Можа, калі буду жыць, надарацца лепшыя ўмовы і ўдасца напісаць нешта паважнейшае. Толькі я перакanaўся, што, каб быць пісьменнікам, трэба занатоўваць розныя думкі, уражаньні, зарысоўкі, сітуацыі, вобразы. Я калісьці нават завёў быў такі цікавы сшытак, дзе былі ўсялякія магчымыя запісы (усход сонца, шум ветру, сум, роспач). На жаль, цяпер я мала працую. Другая рэч — гэта мова. Чым больш слухаць жывое роднае слова. Я калісь жыў на вёсцы, я адчуваў, як я рос. І, самае галоўнае, мець шмат часу і нічога не рабіць, апрача літаратурнай працы. Гэта важна. Аднак гэта будуць мець хіба нашыя нашчадкі.

...Вы пытаецеся, якое я думкі аб Віцьбічу. Я лічу, што ён здольны пісьменнік, сумленны чалавек, сыстэматычны ў працы, дрэнны палітык (разменьваецца на дробязі), вельмі шчыры сябра. Няслушна на яго вядуць нагонку некаторыя безадказныя ў нашым грамадскім жыцьці "пэрсоны". Шкада толькі, што ён не пасьвячаецца больш літаратуры. Я, між іншым, надзвычай люблю атрымоўваць ад Віцьбіча лісты. Уласна кажучы, Вашы і яго лісты — адзіная прыемнасць для мяне...

Вы цікавіцеся, ці верш "Чорныя цені" аўтабіяграфічны. Так. Я маю сям'ю, але яна — там... Я перажыў асабістыя трагедыі, аб якіх можа ня варта гаварыць. Хто яго ведае, ці гэта была шчырасьць, ці, як кажуць, маральны ўпадак. Жыцьцё мне часам усьміхалася, і я сьмяяўся жыцьцю. А цяпер яно нада мной насмяялася крыху. Але сонца яшчэ сьвеціць над зямлёй... Можа, яно асьвеціць калі і мяне.

Цяпер у сэрцы пуста, нудна! І таму я часам п'ю, па-ясенінску неяк, да "хвароблівай брэдзі". Але гэта ўсё пройдзе, міне. Пакуль што няма пэрспектыў, праблескаў, нейкага пункту апоры. Часам робіцца жудасна, калі глянеш на сяньняшнюю сапраўднасць. Можа прыдзецца недзе папросту "здохнуць". Вы пішаце аб маіх вачох, што яны іскрацца і сьмяюцца да некага. Нажаль. Яны іскрацца толькі да дзяцей і моладзі. У мяне нікога няма тут. Я адзін, адзін..."

**КОНКУРСЫ**



У Мінску адбыўся адкрыты конкурс па цырульніцкаму мастацтву "Залаты падснежнік". Ён праводзіўся ў рамках рэгіянальнага адборачнага тура перад першым чэмпіянатам Усходняй Еўропы. У ім прынялі ўдзел каля 125 візажыстаў з усіх абласцей Беларусі, якія прадставілі журы жаночыя вячэрнія прычоскі, мужчынскую стрыжку "Камерцыйны стыль".

НА ЗДЫМКАХ: працуюць канкурсанты; варыянты жаночых вячэрніх прычосак.

**Фота Аляксандра МАЦЮШКОВА.**





**УРАЖАННІ**

## УСПАМІНЫ ПРА ВАНДРОЎКУ

Цікава, рамантычна прайшла паездка ў Зэльву, дзе жыла і тварыла свае вершы Ларыса Геніюш, знакамітая беларуская паэтка. Ехалі мы ў гэты гарадок аж пяць гадзін на школьным аўтобусе, былі там два дні, але час, праведзены ў беларускім гарадку і яго ваколіцах, стаў самай лепшай парой у маім жыцці.

У першы дзень мы наведалі бібліятэку, хату, дзе жыла Ларыса Геніюш, і каталіцкі храм. Цікавыя аповеды пачулі мы ад настаўніцы беларускай мовы (сваячкі паэткі) пра нялёгкае жыццё Ларысы Геніюш. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, кнігі паэткі захаваліся да нашых дзён, захаваўся яе рукапіс і фотаздымкі.

У час паездкі вельмі захапляючым быў вечар, праведзены ля возера. Там мы варылі юшку і смажылі шашлыкі, вярнуліся позна і доўга яшчэ не маглі заснуць ад уражанняў.

На другі дзень наведалі Сынковіцкую царкву і Зэльвенскую школу № 3. У царкве мне вельмі спадабалася: яна абарончага тыпу, з тоўстымі сценамі. Мы падымаліся на вежу. Царква была пабудавана ў гады, калі дзяржавай (ВКЛ) кіраваў Вітаўт.

У школе дырэктар распавёў нам гісторыю сваёй школы, паказаў класы, кабінеты. Усё там прыгожа абстаўлена, многае зроблена рукамі вучняў. Навучэнцы 8-га класа далі нам магчымасць убачыць іхнюю самадзейнасць, літаратурна-музычную кампазіцыю, прысвечаную творчасці беларускіх пісьменнікаў, якія жылі ў Зэльве і яе ваколіцах.

Мне вельмі спадабалася гэта падарожжа. На доўгі час застануцца ўспаміны аб ім. І я з задавальненнем наведаў бы беларускія мясціны яшчэ раз.

**Міраслаў АВІЖЭНЬ,**
**вучань віленскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны.**
Літва.

## НАЛАДЖАНЫ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ З ГРАНАДАЙ

Як паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў, пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Аляксандр Сычоў і пастаянны прадстаўнік Гранады пры ААН Ламуэль Станіслаус падпісалі сумеснае камюніке аб наладжванні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Гранадай. Такім чынам, на 1 чэрвеня 2000 года Беларусь наладзіла дыпламатычныя адносіны з 136 краінамі свету.

## НАРОДНАМУ ФОТАКЛУБУ «МІНСК» — 40 ГОД



М. Жылінскі. "Вясковы матыў".



У. Няхайчык. "Матуля".

НФК "Мінск" — старэйшы фотаклуб рэспублікі. Ён аб'ядноўвае больш за 30 фотааматараў і прафесіяналаў. Амаль ні адна значная падзея ў культурным жыцці рэспублікі не абыходзіцца без яго ўдзелу. Фотаклуб вядомы сваімі шматлікімі рэспубліканскімі і міжнароднымі фатаграфічнымі праектамі. Сярод іх "Фатаграфіка" (1971—1989), "Мінскі форум-95", "Міжнародны Купалаўскі фотапленэр" (1997), "Мой горад" (1998—1999), "Вобраз жанчыны" (2000).

Клуб заснаваны ў 1960-м. Яго першым старшынёй быў абраны прэзідэнт Акадэміі навук БССР В. Купрэвіч. Услед за ім у 60-х гадах клуб узначальвалі І. Салавейчык, А. Зайцаў, В. Брадзіхін, Г. Меньшыкаў, В. Смірноў.

Найбольш значнай падзеяй у жыцці клуба з'явілася правядзенне міжнародных фатаграфічных салонаў "Фатаграфіка 71, 73, 75, 78, 81, 89", ініцыятарамі і арганізатарамі якіх былі Яўген Казюля (узначальваў клуб з 1971 па 1978 год) і Юрый Васільеў (старшыня клуба з 1978 па 1999 год).

У 1979 годзе клуб атрымаў званне "народны". У 1995-м Юрый Васільеў адзіны з фотамайстроў рэспублікі атрымаў званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь".

Сёння клуб спалучае тры пакаленні. Гэта майстры, якія стварылі яго славу, якія і сёння ў творчым пошуку: Яўген Казюля, Юрый Васільеў, Марыя Жылінская, Уладзімір Няхайчык, Віктар Бутра, Аркадзь Бірылка. Гэта тыя, хто прыйшоў у клуб у дзевяностых гадах і ўжо сёння мае за плячыма не адну персанальную выставу — Віктар Жураўкоў, Сяргей Кавалёў, Аляксей Паўлюць, Валерый Сібрыкаў, Аляксандр Кандыба і іншыя. І тыя, з кім клуб звязвае сваю будучыню, хто робіць першыя крокі ў мастацкай фатаграфіі — Наталля і Аляксандр Яўмененкі, Жанна Цяльпук, Андрэй Васкрасенскі, Кірыл Волкаў і іншыя.

З 1983 па 1986 год у клубе актыўна працавалі вучэбныя студыі пад кіраўніцтвам Міхася Жылінскага, Валерыя Лабко, Юрыя Елізаровіча. У кастрычніку 1999-га клуб аднавіў практыку вучэбных фотастудый.

У бліжэйшых планах фотаклуба — падрыхтоўка і правядзенне ў верасні фатаграфічнага фестывалю, прысвечанага 40-годдзю НКФ "Мінск". У праграме фестывалю некалькі выстаў мастацкай фатаграфіі, дзве з якіх з'яўляюцца сумесным праектам клуба і Нацыянальнага музея гісторыі і культуры: выстава беларускай фатаграфіі канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, на якой гледачы атрымаюць магчымасць убачыць арыгіналы Юхніна, Напельбаўма, Булгака і іншых, і выстава фатаграфіі НФК "Мінск" 60-х —80-х гадоў, дзе будуць прадстаўлены здымкі вядомых беларускіх фотамастакоў, у тым ліку Мікалая Байцова, Анатоля Дудкіна, Міхася Жылінскага. Акрамя гэтага, плануецца выстава сучаснай фатаграфіі НФК "Мінск" і выстава сяброў клуба з Расіі (Коласаў, Чарноў і іншыя), Украіны (Камароў), Літвы (Бутырын), Польшчы (Рагазінскі, Волкаў).

**Альберт ЦЭХАНОВІЧ,**
**старшыня НФК "Мінск".**



Я. Казюля. "Паводка "(з цыкла Палессе).



Ю. Васільеў. "Гаспадыня".



М. Байцоў. "Раніца на Дняпры".



А. Дудкін. "Дзед Яўхім".

## СМАЧНА ЕСЦІ!

### КАТЛЕТА МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ

Ныркі ачысціць ад тлушчу і плеўкі, заліць халоднай вадой і давесці да кіпення, затым выняць, абмыць, заліць свежай вадою і зварыць.

Мазгі замачыць на 30—40 хвілін, зняць плеўку, палажыць у каструлю, заліць халоднай вадой, дабавіць 1 сталовую лыжку трохпрацэнтнага воцату, лаўровы ліст, перац, соль і паставіць варыць. Свініну разам з адваранымі мазгамі і ныркамі прапусціць праз мясарубку, цыбулю дробна пакрышыць, а сырую бульбу надзерці на тарцы.

Падрыхтаваныя прадукты старанна перамяшаць, дабавіць спецыі, соль, сфармаваць катлеты і абсмажыць. Падаць з чырвоным соусам і адваранай бульбай.

*175 грамаў свініны, 185 грамаў ялавічных нырак, 130 грамаў мазгоў, 1 бульбіна, 1 цыбуліна, 2—3 сталовыя лыжкі паніровачных сухароў, перац, лаўровы ліст, 1 сталовая лыжка трохпрацэнтнага воцату, 1 шклянка чырвонага соусу, соль.*

***СОУС ЧЫРВОНЫ.*** Муку абсмажыць да жоўтага колеру і развесці гарачым мясным булёнам. Пятрушку, цыбулю і тамат-пюрэ абсмажыць, перакласці ў булён і паварыць на слабым агні 20—30 хвілін. Дабавіць соль, 1—2 лыжкі віна (мадэры ці партвейну), працадзіць і давесці да кіпення.

*2 сталовыя лыжкі мукі, 1 морква, 1 корань пятрушкі, 1 цыбуліна, 0,5 шклянкі тамат-пюрэ, 3 сталовыя лыжкі тлушчу, 1 чайная лыжка цукру, 3 шклянкі мяснога булёну, соль. (Разлічана на атрыманне 1 літра соусу).*

### ПІВА З ЯДЛОЎЦУ

200 грамаў свежых ягад ядлоўцу варыць у 2 літрах вады 30 хвілін. Працадзіць, астудзіць да пакаёвай тэмпературы, дабавіць 50 грамаў мёду і 25 грамаў дражджэй, размяшаць для браджэння. Калі вадкасць паднімецца, зноў размяшаць і разліць у бутэлькі, шчыльна закаркаваць і паставіць у халоднае месца. Праз 3—5 дзён піва можна ўжываць.

### КАВА З КАРАНЁЎ ЛОПУХУ

Памытыя карані дробна парэзаць, высушыць і падсмажыць у духоўцы ці ў печы да пабурэння і размалоць. Запарваць 1—2 чайныя лыжкі на 1 шклянку кіпеню.

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

***Зрабіце пераклад слоў з расійскай мовы на беларускую і прастаўце ў крыжаванку.***

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.**
**2. Баня. 6. Грач. 7. Глаз. 9. Решётка. 10. Леший. 12. Аист. 13. Учитель. 18. Ботинок, башмак. 21. Беседа. 22. Зонт. 23. Поступь (походка). 24. Крыса. 25. Здание. 27. Сверчок. 28. Ромашка. 32. Подарок. 35. Крыльцо. 36. Сундук. 37. Овечья шерсть. 38. Лицо. 39. Керосин. 40. Утка.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.**
**1. Лакомка, сластёна. 3. Отрава. 4. Толпа. 5. Поиск. 6. Горшок с узким горлом. 8. Масло (растительное). 11. Накипь. 12. Бич, арапник. 14. Осанка, поза. 15. Паспорт. 16. Хоровод. 17. Свёрток, свиток, рулон. 19. Арбуз. 20. Очерк. 21. Честь, почёт. 25. Свёкла. 26. Подзатылок, шея (задняя часть). 29. Кладовая, чулан. 30. Полотенце. 31. Шутка. 32. Приданое. 33. Чашка, кружка. 34. Шоссе.**



**Склала Святлана ФАЦЕЕВА.**


«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

РЭДАКЦЫЯ.

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1545.
Падпісана да друку 19.6.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).